Жыла-была ў вялікай краме шкляная бутэлька з мінералкай. Яна стаяла на шырокай паліцы і з нецярпеннем чакала, калі ж хто-небудзь купіць яе. І вось аднойчы яна трапіла ў кошык побач з зефірам, гарчыцай, памідорамі і пластыкавай бутэлькай з газіроўкай. Яны ўсе ціхенька ляжалі на дне і чакалі, калі іх данясуць да касы. Гарчыца была маленькая і боўталася з боку ў бок, пры гэтым незадаволена бухцела. Памідоры здзіўлена ўсміхаліся і пераглядваліся. Зефір нешта весела напяваў сабе пад нос.

— Як выдатна! — падумала шкляная бутэлька. — Мяне зноў чакаюць прыгоды.





Потым усе яны апынуліся ў пакеце, праз які можна было разглядзець неба, траўку і дрэвы, быў чутны гул машын.

— Табе не страшна? Што будзе далей? — нечакана запытала пластыкавая бутэлька шкляную.

— Не, — адказала тая, — мы апынемся ў лядоўні, мінералку вып’юць, а нас транспартуюць туды, дзе збіраюць пустыя бутэлькі, а потым — зноў у краму.

Пластыкавая бутэлька весела забулькала і ўсміхнулася.



Так і адбылося, усіх пасялілі ў лядоўню. Там было трошачкі халаднавата і цёмна, але надта цікава. Як толькі дзверы зачынялі, у халадзільніку пачыналася насычанае жыццё: зефір з мармеладам шапталіся і смяяліся, вялікая банка з агуркамі важна раздувалася і давала ўсім парады пра тое, на якім баку лепш спаць, сыр спрачаўся з маслам, хто больш значны на бутэрбродзе, і толькі гарчыца штосьці ўвесь час бухцела.

Прайшло некалькі дзён. Шкляная і пластыкавая бутэлькі пасябравалі, разам пускалі бурбалкі і гулялі.



Калі з бутэлек усё дапілі, яны апынуліся пад ракавінай, але ў розных кошыках: пластыкавая бутэлька разам з пакетамі, упакоўкай ад зефіру і нейкімі скрыначкамі, а шкляная бутэлька — са шклянымі банкамі розных памераў. Бутэлькі больш не маглі размаўляць і засумавалі.

— Чаму пластыкавая бутэлька не з намі? — запытала шкляная бутэлька вялікую банку.

— Пфф, — ганарліва адказала банка і, здаецца, яшчэ больш раздулася, — сюды трапляюць толькі шкляныя рэчы.

— Але чаму? — здзівілася шкляная бутэлечка.

— Таму што, — зноў пачала задзіраць нос банка, — па-першае, нас можна выкарыстоўваць некалькі разоў, а па-другое, мы зробленыя з пяску, нас можна разбіць на маленькія кавалачкі, пераплавіць і зноў зрабіць бутэлькі і слоікі рознага памеру і формы. Вось я, напрыклад, раней была… — яна не паспела дагаварыць.



— А што будзе з пластыкавай бутэлькай, яна не з пяску? — амаль са слязьмі на вачах спытала шкляная бутэлечка.

— Не, яна з нафты, — адказала банка і зрабіла такі выгляд, нібыта гэта ўсім вядома.

— І што… што з ёй будзе? — не магла супакоіцца шкляная бутэлька.

— Нічога. Глядзі, тваёй сяброўцы пашанцавала. Яна апынулася з іншымі рэчамі з пластыка, а гэта значыць, што іх пераплавяць і яна будзе некім іншым, напрыклад… — зноў не паспела скончыць банка.



— А што, калі б не пашанцавала? — ужо шэптам запытала бутэлька.

— Тады яе б кінулі ў звычайнае вядро — туды трапляюць усе рэчы, калі яны больш непатрэбныя, а адтуль усе едуць на вялікі сметнік, які называецца палігонам. Там, кажуць, бывае вельмі весела, і можна сустрэць шмат цікавага, але адтуль больш не павандруеш…

— А чаму ж усіх не збіраюць у асобныя скрыні? — зноў не змагла даслухаць і запытала бутэлечка. — Тады ніхто не трапляў бы туды, адкуль няма выйсця.

Банка нічога не адказала.

— Пэўна ў свеце яшчэ не паспелі вырабіць столькі скрынак і кошыкаў, каб усіх можна было складваць асобна, — сумна падумала бутэлька.

Яна яшчэ доўга не магла заснуць і думала пра тое, як уладкавана жыццё. Радавалася, што пластыкавая бутэлька усё ж такі апынулася ў асобнай скрыні, хоць і бутэлькай яна больш не стане. Мабыць, яна будзе кімсьці іншым, і тады яны яшчэ сустрэнуцца, але ці здолее яна пазнаць яе. Радавалася, што ёй пашанцавала быць шкляной бутэлькай, і колькі ўсяго цікавага яе чакае наперадзе. Марыла пра тое, як было б добра, калі б пластыкавая бутэлька таксама ператварылася ў шкляную, і яны б разам вандравалі. І толькі было крышачку сумна за тых, хто трапляе на палігон, так і не паспеўшы нічога пабачыць.





Аўтар
**Марыя Масягіна**

Ілюстратар
**Воля Кузьміч**
www.animatarka.com

Брашура выдадзена ў межах праекта
«Распрацоўка стратэгіі інтэграванага кіравання камунальнымі адходамі для ўстойлівага развіцця Мінскай вобласці, Рэспубліка Беларусь»
пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза.



Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў
і аховы навакольнага асяроддзя
вул. Захарава, 31
220034, г. Мінск
Рэспубліка Беларусь
www.minoblpriroda.gov.by

МГА «Экапартнёрства»
вул. Талбухіна, 2, офіс 20
220012, г. Мінск
Рэспубліка Беларусь
www.ecoproject.by